

# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №6 (133)
КРАСАВІК 2013 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## МАДЭРНІЗАЦЫЯ ЦІ ІМІТАЦЫЯ?

**Калі ўсур'ёз успрымаць апошнія заявы кіраўніка дзяржавы наконт мадэрнізацыі эканомікі, то адразу ўзнікае некалькі заканамерных пытанняў: " Дзе ўзяць грошы? Чаму гэты працэс, які мусіць быць перманентным, раней адбываўся так марудна? Дзе той людскі авангард абвешчанай эканамічнай перабудовы, з новым эканамічным здумленнем, што мусіў быць загадзя падрыхтаваны ўладай для гэтай мэты ў замежных эканамічных інстытутах? Дзе папярэдняя ідэалагічна-асветніцкая праца, дзякуючы якой адбудуцца змены ў грамадскай свядомасці на карысць новых эканамічных каштоўнасцяў?.. І калі сёння ў нашай рэчаіснасці ўсё гэта прысутнічае ў нейкім вылегчаным выглядзе, то тады, як трэба ставіцца да заявы пра мадэрнізацыю?**

Адзінае выйсце – унутраныя інвестыцыі, якія аднак могуць справакаваць павышэнне коштаў замежнай валюты. Таму, як мяркуе эканаміст, праграма мадэрнізацыі – перадвыбарчы лозунг Лукашэнкі да прэзідэнцкіх выбараў–2015. Экперт падкрэсліў: «У канкурэнцыі лозунгаў лозунг пра мадэрнізацыю саступае неабходнасці захаваць стабільнасць, то бок гарантаваць адсутнасць дэвальвацыі. Дэвальвацыя страшнейшая, чымся невыкананне планаў мадэрнізацыі».

У сваіх ацэнках аб'яўленай мадэрнізацыі блізкі да агучанага С. Чалым і Міхась Залескі: " Тут мадэрнізацыя ёсць толькі словам, каторым прыкрываюць інтарэсы. Інтарэсы ж палягаюць у тым, што на думку тутэйшых кіраўнікоў, існая фінансавая сыстэма не вельмі ўстойлівая. Сапраўдная мадэрнізацыя ёсьць стварэннем новых працоўных месцаў, на каторых людзі будуць рабіць новую прадукцыю, якая знойдзе попыт ва ўсім свеце. У нас жа гэтыя грошы будуць праедзеныя, як і ўсе папярэднія. Просты прыклад: мадэрнізацыяй сельскай гаспадаркі. Выбралім 63 узорныя гаспадаркі, уклалі ў іх 2,5 мільярды даляраў. І толькі 3 з іх выканалі планавыя паказчыкі – вось вам паказчык эфэктыўнасці – 1/30. Такім парадкам з 2 мільярдаў колькі мільёнаў пойдзе на добры толк, а астатнія змарнуюць. Беларускія кіраўнікі сталі вялікімі майстрамі пазычаць грошы й добра асвойваць рэсурсы, як у савецкія часы. Гэта трагедыя Беларусі, у нас не адбылася ратацыя эліт ды захаваліся савецкія кіраўнікі. Яны ўмеюць вельм і добра асвойваць рэсурсы. І вось цяпер наша краіна выглядае як нейк і піянерлягер: бардзюры пафарбаваныя, дрэўцы пастрыжаныя, газоны скошаныя, піянеры ў гальштуках ходзяць, але гэты піянерлягер нічога не стварае".

І калі ўжо ўсур'ёз разглядаць праблему мадэрнізацыі, трэба сказаць, што гэта не толькі праблема эканамічная – гэта комплекс узаемазалежных палітычных, сацыяльных, культурных пытанняў, якія неабходна вырашаць адначасна, а мо і раней за эканамічныя. Рэчаіснасць жа сведчыць пра адваротнае. Згодна вынікам апытання грамадскага меркавання, праведзенага НІСЭПІ ў сакавіку 2013 года, у краіне існуе надзвычай высокі ўзровень недаверу людзей адзін да аднаго. Так, на пытанне "Ці можна даваряць большасці людзей або ў адносінах з людзьмі трэба быць вельмі асцярожным?" 70% адказалі, што ў адносінах з людзьмі трэба быць вельмі асцярожным, і толькі 23,1% лічаць, што большасці людзей можна даваряць.

Што ж тычыцца "эканамічнага самаадчування" беларусаў, то тут амаль дзве трэціны апытаных лічаць, што беларуская экономіка па-ранейшаму знаходзіцца ў крызісе.

Пры гэткім светаадчуванні насельніцтва гаварыць пра нейкую мадэрнізацыю– марнаваць час і сродкі.

А зараз прыклад з асабістага жыцця, які і зусім апускае планку грамадскай свядомасці ніжэй плінтуса. Улічваючы яго можна сцвярджаць – тутэйшае насельніцтва знаходзіцца ў стане нейкага татальнага ачмурэння, якога не было нават пры Саветах. Пра якасць пітной вады ў свеце гавораць ужо гадоў 50-т. Пра якасць жа тутэйшай вады ўзгадваюць даволі рэдка. Прыпамяную выпадак, сведкам якога я стаў гадоў 20-30 таму: здаецца, санэпідэмстанцыі кантралююць ваду даўно, але як гэта робіцца. Прадстаўніца калгаса, дзе я тады жыў, мусіла адвезці ваду на аналіз; ведаючы, што ейная якасць не адпавядае нормам, набірала яна яе ў калонцы зусім іншай вёсцы, дзе, відаць, вада была неблагой якасці.

А зараз да нашых баранаў: учора да мяне завітаў прадстаўнік кампаніі, якая прапануе адмысловую сістэму для фільтрацыі пітной вады. На маіх вачах хлопец пратэставаў ваду: спачатку ён замерыў узровень прысутных у ёй сумесяў, перавышэнне якіх было амаль у два разы ( больш за 200 адзінак ужо небяспечнае для здароўя, там жа было 391 адз.); а затым зрабіў гідроліз вады, пасля якога тая са знешне празрыстай ператварылася ў рудавата-фіялетавую). На дзіва, ні кіпячоная, ні асвечаная ў царкве вада таксама не адпавядалі нормам. Цэлая краіна штодзённа травіцца гэтаю вадою, не ведаючы нічога пра ейную якасць, а дзяржава маўчыць, замест замены паіржавелых паўсюдна трубаў і пабудовы сістэмаў ачысткі вады, будуючы непатрэбныя бальшыні лядовыя палацы і ўзводзячы драўляныя і бетонныя платы. Канечне, якасць вады на вока не вызначыш, а вось паспрабуй не заўважыць пастаўлены плот ці пабудаваны палац! Паказны клопат дзяржавы пра людзей нараджае паказное стаўленне да праблемаў дзяржавы з боку насельніцтва.

І што б там, хто ні гаварыў, большасць грамадства адчужанае ад дзяржавы і да мадэрнізацыі папросту непадрыхтаванае, як дарэчы і дзяржава, якая не мае дастаткова сродкаў і адмысловцаў з сучасным эканамічным здумленнем. Дык дзе ж выйсце? Адказ, думаю, відавочны: эканамічная мадэрнізацыя немагчымая без мадэрнізацыі палітычнай, сацыяльнай і культурнай.

**Рэдактар**

ЭКАНОМІКА

## ЗГОДНА З АФІЦЫЙНАМІ ПАВЕДАМЛЕННЯМІ

**Дзяржаўная інвестыцыйная праграма на 2013 год прадугледжвае будаўніцтва больш за тросот сацыяльна значных аб'ектаў. Як жа на раённым узроўні рэалізуецца праграма інвестыцыйнага развіцця?**

Згодна з афіцыйнымі паведамленнямі, прадпрыемствамі раёна адгружана інавацыйнай прадукцыі на суму 76 млрд. рублёў, сярод якой найбольшая ўдзельная вага прыпадае на ААТ «БелВітуніфарм» (84,6 адсотка).

У 2012 годзе прамысловымі прадпрыемствамі раёна пачатая рэалізацыя планаў мадэрнізацыі дзеючых вытворчасцяў, зацверджаных на 2012-2015 гады.

ААТ «Віцебскі плодаагароднінны камбінат» завяршае работы па рэканструкцыі цэхадзіцячага харчавання з арганізацыяй вытворчасці раслінна-рыбных і раслінна-мясных кансерваў у шклотары. У планах гэтага года – набыццё тэхналагічнага абсталявання для вытворчасці тэрмастабільных, гамагенных і гетэрагенных напаўняльнікаў, канфіцюраў, джэмаў, варэння для кандытарскай прамысловасці прадукцыйнасцю 16 тонаў у суткі. Плануе распачаць у гэтым годзе стварэнне спецыялізаванага комплексу па вытворчасці біялагічных і фармацэўтычных прэпаратаў ААТ «БелВітуніфарм». Гэта дазволіць цалкам задаволіць патрэбы ўнутранага рынку, а ў далейшым развіваць экспарт прадукцыі. Прадпрыемствам прагназуецца стварэнне больш за 90 новых тэхналогій вытворчасці ветэрынарных біялагічных і фармацэўтычных прэпаратаў.

У сферы аграпрамысловага комплексу ствараюцца ўмовы для забеспячэння павышэння эканамічнай эфектыўнасці: плануецца пабудаваць 7 зернеачышчальна-сушыльных комплексаў, 4 збожжасховішчы сіласу.У ААТ «Рудакова» завершаны работы па будаўніцтве блока зімовых цяпліц плошчай 10 гектараў, у планах – рэканструкцыя блока цяпліц плошчай 8 га.

У 2013 годзе плануецца рэканстркцыя і пабудова 10 малочна-таварных фермаў з уладкаваннем даільна-малочных блокаў. ААТ «Віцебскмясамалпрам» прыступіць да будаўніцтва аб'ектаў свінагадоўчага комплексу магутнасцю 4000 тон свініны ў год з цэхамі па вытворчасці камбікармоў і мясаперапрацоўцы паблізу в. Мішуткі.

Завяршаецца шырокамаштабнае комплекснае развіццё ААТ "Віцебская бройлерная птушкафабрыка", у выніку максімальная вытворчая магутнасць складзе ў 2013 годзе 17 млн. галоў птушкі або 40 млн. тон мяса ў год.

У сферы гандлю плануецца будаўніцтва пяці магазінаў крокавай даступнасці, у тым ліку чатырох аб'ектаў грамадскага харчавання, сярод якіх два аб'екты прыдарожнага сэрвісу і дзве АЗС.

Вядзецца будаўніцтва аўтамабільнага рынку ў раёне Воранаўскага кальца, дзе будзе пляцоўка для продажу аўтамабіляў на 394 машыны, аўтацэнтр па продажы і тэхнічнаму абслугоўванню транспарту, аўтамыйка, шынамантаж, гандлёвы цэнтр па продажы запасных частак, аб'ект грамадскага харчавання.

У 2012 прыцягнута больш 607.000 даляраў ЗША прамых замежных інвестыцыяў, у асноўным за кошт замежнага прыватнага вытворча-будаўнічага прадпрыемства «ОксесДомИнвест» па ўводу ў эксплуатацыю фабрыкі па вытворчасці дамоў і замежнага прадпрыемства «ГідраЭнергаІнвест» – па будаўніцтву МГЭС на вадасківдзе кар'ера «Гралёва» ААТ «Даламіт».Рэалізуецца інвестыцыйная дамова з прыцягненнем замежных інвестыцый кампаніі«Вітрэо Энерджы АБ» (Каралеўства Швецыя) па стварэнні установак для атрымання звалачнага газу і выпрацоўкі на яго аснове электра-і цеплавой энергіі на палігоне цвёрдых камунальных адкідаў.

Распрацаваны інвестпраект ААТ «Рудакова» па будаўніцтве завода па разліве мінеральнай вады.У цэлым, па раёне рэалізуюцца 17 інвестыцыйных праектаў. Выканана 5 і вядуцца працы па 8 з 27 запланаваных мерапрыемстваў, уключаных у рэгіянальную праграму інавацыйнага развіцця.

**Якаў Дрозд**

ПРАБЛЕМЫ БУДАЎНІКОЎ

## ДЫК ЦІ БЫЎ СТРАЙК?

**1 красавіка, спаслаўшыся на затрымку заробку, рабочыя Віцебскага домабудаўнічага камбінату адмовіліся распачынаць працу. У сеціве зьявіўся зняты на мабільны тэлефон відэаролік, які зафіксаваў спрэчку будаўнікоў з кіраўніцтвам.**

Супрацоўнікі домабудаўнічага камбіната не змаглі атрымаць за люты месяц абяцаную ім зарплату. Толькі пасля хваляванняў прыкладна а 12:50 2 красавіка на рахунках працоўных зьявіліся грошы, аднак толькі 50% ад сумы за люты абяцаную ім зарплату– другую палову паабяцалі выплаціць на працягу тыдня.

Супрацоўнікі Віцебскага домабудаўнічага камбіната незадаволеныя не толькі несвоечасовай выплатай заробкаў, але і іх памерам – большасьць атрымлівае ад 2 да 3 мільёнаў рублёў. 2 красавіка завод буйнапанэльнага домабудавання, які належыць камбінату, наведаў прадстаўнік міністэрства, які паабяцаў праз пару месяцаў павялічыць заработную плату, але рабочыя гэтым абяцанням не вераць, бо, паводле іх словаў, камбінат знаходзіцца ў бядотным фінансавым становішчы. Таксама рабочыя распавядаюць пра прастоі, якія рэгулярна здараюцца з-за адсутнасці бензіну, саляркі, газу або будматэрыялаў, што адмоўна ўплывае на заробкі. Ёсьць праблемы нават з інструментамі і спэцвопраткай.

Між тым, дырэктар Віцебскага домабудаўнічага камбіната Дзміцер Мельнікаў заяўляе, што ніякага страйку, пра які паведамляецца ў медыях, на прадпрыемстве не было. Ён не ведае, адкуль зьявілася гэткая інфармацыя. Кіраўніка прадпрыемства ўжо " выклікалі ва ўсе ворганы, у якія толькі можна". Завод працуе ў планавым рэжыме. Заробак выплачаны ў поўным аб'ёме.

**Ян Сведка**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч Волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Покліч Волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне правоў і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч Волі».***

ПРАВА

# ВІЦЕБСКАГА АКТЫВІСТА ВІНАВАЦЯЦЬ У ІЛЖЭСВЕДЧАННІ

**Актывіста і праваабаронцу Пятра Іванова выклікалі ў абласную службу ДАІ. Перад тым ён напісаў скаргу на парушэнне супрацоўнікамі міліцыі правілаў дарожнага руху, але замест службовага разбіральніцтва, яго абвінавацілі ў тым, што ён падае паклёпніцкія звесткі.**

Інцыдэнт, з прычыны якога Пётар Іваноў склаў скаргу ў ДАІ, адбыўся 16 лютага. Іваноў стаў сведкам затрымання актывістаў аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Аляксея Кішчука і Станіслава Лаўрэнава, якія выйшлі ў цэнтар Віцебску з расцяжкай «Свабоду палітвязням».

Паводле Пятра Іванова, міліцэйская машына заехала на ходнікі, што стварыла небяспеку для мінакоў і, у прыватнасці, для яго асабіста. Гэта і было напісана ў скарзе. Аднак у ДАІ не пагадзіліся прыцягнуць супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху. Затое Іванова абвінавацілі ў ілжэсведчанні.

Са складзеным пратаколам актывіста з ДАІ павезлі ў Першамайскі райсуд, але не давезлі: міліцэйская машына развярнулася, і актывіста даставілі ў Першамайскі РАУС, дзе на яго склалі яшчэ адзін пратакол: гэтым разам за парушэньне артыкулу 23.4 КаАП – непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы падчас выканання ёй службовых паўнамоцтваў.

На падставе складзеных пратаколаў Пятра Іванова і будуць судзіць. Паводле кожнага з артыкулаў адміністрацыйнага кодэксу, у парушэнні якіх абвінавачваюць Пятра Іванова, яму пагражае штраф або адміністрацыйны арышт да 15 сутак.

**Ян Сведка**

# ПА ЗАКОНЕ ПРОСЬБА МУСІЦЬ БЫЦЬ ЗАДАВОЛЕНАЯ

**Віцебскія апазіцыйныя актывісты Хрыстафор Жаляпаў і Аляксей Гаўруцікаў, узяўшы пад увагу ранейшыя адмовы Першамайскай раённай адміністрацыі на правядзенне мітынгаў са спасылкай на «занятасць» Парка імя 30-годдзя ВЛКСМ пад спартовыя мерапрыемствы, звярнуліся ў Віцебскі гарвыканкам і папрасілі азнаёміць іх з гадавым планам выкарыстання гэтага парку.**

Адначасна з гэтым у адміністрацыю Першамайскага раёну яны падалі яшчэ 2 заяўкі на правядзенне масавых мерапрыемстваў. 12 красавіка яны меркавалі правесці мітынг супраць збядненне беларускага народу і ў падтрымку палітвязняў, а 26 красавіка – мітынг з нагоды 27-х угодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Аднапартыец Мікалая Статкевіча, віцебскі сацыял-дэмакрат Аляксей Гаўруцікаў асабіста схадзіў у Парк імя 30-годдзя ВЛКСМ, дзе раённымі ўладамі была забароненая акцыя 25 сакавіка але ніводнага спартоўца ў Дзень Волі ён там не сустрэў. Калі ён пацікавіўся, што здарылася, то ў адміністрацыі спартовага комплексу "Камсамолец" сказалі, што спаборніцтвы адмянілі(аддзел культуры, спорту і турызму адмяніў спаборніцтвы" ў сувязі са складанымі ўмовамі надвор'я і прыбраў дрэваў у парку яшчэ 22 сакавіка). Але да заяўнікаў так ніхто не звярнуўся, хаця галоўная падстава для адмовы знікла.

Аляксей Гаўруцікаў і другі заяўнік масавай акцыі на Дзень Волі,кіраўнікабласнойструктуры руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў маюць падставы меркаваць, што раённыя чыноўнікі былі з імі не зусім шчырыя, калі прымалі рашэнне пра адмову, таму заяўнікі папрасілі Віцебскі гарвыканкам пазнаёміць іх з зацверджаным планам мерапрыемстваў у Парку імя 30-годдзя ВЛКСМ. Па законе іхняя просьба мусіць быць задаволеная, бо гэтае месца – афіцыйна вызначаная тэрыторыя для правядзення масавых мерапрыемстваў.

**Ян Сведка**

ПАДЗЕІ

# НЕЛЬГА ДАПУСЦІЦЬ ПАЎТАРЭННЯ ТРАГЕДЫІ

**Сябра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў накіраваў у адміністрацыю Кастрычніцкага раёну Віцебску заяўку на правядзенне пікету 26 красавіка.**

Пікет прымеркаваны да 27-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Нагадаем, гэта не адзінае мерапрыемства, запланаванае на 26 красавіка апазіцыйнымі палітыкамі ў Віцебску: раней заяўку на правядзеньне мітынгу падаваў старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў.

Ян Дзяржаўцаў лічыць, што пра Чарнобыльскую трагедыю трэба памятаць заўсёды.

Мэтай плануемай акцыі зьяўляеццанетолькіўшанаванне памяці тых, хто пацярпеў ад наступстваў аварыі ў Чарнобылі. Удзельнікі пікету таксама хочуць выказаць пратэст супраць будаўніцтва атамнай станцыі ў Астраўцы. Нельга дапусціць паўтарэння трагедыі. АЭС у Беларусі не павінна быць. Як лічыць Ян Дзяржаўцаў рэба не атамную станцыю будаваць, а пераходзіць на выкарыстанне ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі – ветру, сонечнай энэргіі, як гэта робяць у краінах Эўропы.

**Ян Сведка**

ПОМНІМ!

# У ПАМЯЦЬ ВЯЗНЯЎ ФАШЫЗМУ

**Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў усталяваны з ініцыятывы ЮНЭСКА ў памяць пра інтэрнацыянальнае паўстанне, якое 11 красавіка 1945 году паднялі вязні Бухенвальду.**

Адна з самых трагічных старонак Другой сусветнай вайны – непаўнагадовыя вязні. Дзеці станавіліся закладнікамі, донарамі, біялагічнай сыравінай для злачынных экспэрымэнтаў… 20 гадоў таму, калі была створаная абласнаяарганізацыяБеларускай грамадскай асацыяцыі былых непаўнагадовыхвязняўфашызму, на ўліку іх было 25 тысячаў, а вось на пачатак 2013 году засталося 7400.

Таму асноўная яе задача – сацыяльная абарона сябраў арганізацыі. Наладжваюцца сувязі з раённымі тэрытарыяльнымі цэнтрамі сацыяльнага абслугоўвання. У міжнародным конкурсе праектаў па сацыяльнай абароне былых вязняў фашызму, абвешчаным нямецкім фондам «Памяць, адказнасць і будучыня», удзельнічае і праект арганізацыі. Калі праект будзе ўхвалены, на сродкі, што выдзяляюцца Нямеччынай, будзе магчымасць дапамагчы былым вязням.

3 ініцыятывы арганізацыі штогод у Дзень вызвалення вязняў ладзіцца мітынг-рэквіем каля помніку пры канцы вул. Цітова, дзе падчас вайны знаходзіўсялягерпярэднягакраю («5-й полк»). Сябры арганізацыі выступаюць перад школьнікамі цягам усяго навучальнага году.

**Ян Сведка**

" ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ"

# КРОССОВЕР В КОМПЛЕКТАЦИИ БЛИЗКОЙ К МАКСИМАЛЬНОЙ

**Витебский районный исполнительный комитет разместил тендер на закупку компактного кроссовера «Renault Duster» в комплектации «Privelege +» за 210 000 000 рублей.**

Интересно, что сумма тендера, если верить прайсам официальных дилеров Renault более близка к максимальной комплектации «Luxe» — с НДС такая машина стоит 24 400 долларов, в комплектации «Privelege +» — 23 000 долларов, а самая дешевая конфигурация обойдется в 19 600 долларов.

Как видим в «Год бережливости» Витебский райисполком мог бы сэкономить от 3400 до 4800 долларов. Правда для этого чиновникам пришлось бы отказаться от противотуманных фар, бортового компьютера, электрозеркала заднего вида с обогревом, подогрева передних сидений, полуавтоматического кондиционера, кожаной обивки руля, электроподъемников стекол, легкосплавных дисков, тонировки на боковых и задних стеклах, атакже хромированных накладок на бамперах, рейлингах и выхлопной трубе.

**Сяргей Серабро**

ГОНАР НАЦЫІ

# «Я САМЫ СТАРЫ БЕЛАРУС У СЬВЕЦЕ»

**6 красавіка 103-ю гадавіну з дня нараджэньня адзначае Барыс Кіт, беларускі асьветнік, амэрыканскі дасьледчык астранаўтыкі, аўтар першага ў сьвеце падручніка па ракетным паліве.**

Барыс Кіт прызнае, што пасьля 100 гадоў кожны дзень народзінаў як юбілей, а на пытаньне, як сябе адчуваеце ў 103 гады, адказвае, што ў такім узросце добра проста сябе адчуваць.

Барыс Уладзіміравіч кажа, што адзначаць свой 103-ці дзень народзінаў будзе вельмі сьціпла, разам толькі з жонкай Тамарай. Найбольшая радасьць для яго ў гэты дзень — тэлефанаваньні і віншаваньні з многіх краін сьвету ад родных, сяброў і знаёмых:

«Ніякіх плянаў на сьвяткаваньне ў мяне няма. Я раблюся такі стары, што наагул нічога ня хочацца... Калі сплю, то мне ўсё сьніцца маё мінулае».

Нядаўна Барыс Кіт пераехаў з асобнай кватэры, у якой жыў каля трыццаці гадоў, у інтэрнат для састарэлых у Франкфурце-на-Майне.

3 700 пастаяльцаў ён там самы стары, але, у адрозьненьне ад многіх, можа хадзіць з кіёчкам, гуляе на вуліцы, часам чытае газэты, глядзіць тэлевізар, хоць і скардзіцца, што зрок і слых ужо ня тыя, як раней:

«Я ўвесь час змагаюся, каб не асьлепнуць,лячуся...Думаю,што я самы стары беларус у сьвеце. Я сам дзіўлюся, што я жыву так доўга. Шмат разоў у жыцьці я амаль паміраў. Напрыклад, месяц сядзеў у Глыбокім у турме, зь якой штоноч гестапа выводзіла людзей на расстрэл... І было шмат іншых выпадкаў. Але Бог даў доўгае жыцьцё», — кажа спадар Кіт.

Барыс Кіт жартуе, што нават стаміўся жыць, але разам з гэтым прызнае, што яму яшчэ шмат што цікава ў жыцьці. У студзені гэтага году Барыс Кіт узяў удзел у да агульнанацыянальнай дыктоўкі.

Барыс Кіт згадвае ў размове многіх беларускіх дзеячоў передваеннага часу, зь якімі быў знаёмы ці сябраваў, эпізоды з жыцьця Віленскай беларускай гімназіі, у якой ён працаваў настаўнікам і дырэктарам, разгром «Грамады», актывістам якой быў, допыты польскай паліцыі, вайну. Кіт застаўся ці не апошнім жывым сьведкам тых падзей:Шкада толькі, што сярод беларусаў ніколі не было паяднання«Ніхто не застаўся. Адзін я пакуль што застаўся. Жыць доўга — гэта ня ёсьць радасьць, вось калі я быў малады, тады хацелася жыць і нешта рабіць для Бацькаўшчыны. Нешта мы зрабілі для Беларусі. Шкада толькі, што сярод беларусаў ніколі не было паяднаньня».

**Паводле " Радыё свабода"**

КРЫМІНАЛ

# БЕЗ ТЭРМІНА ДАЎНІНЫ

**24 ліпеня 1996 ў зале гульнявых аўтаматаў у віцебскім кінатэатры «Беларусь» быў знойдзены труп 27-гадовай жанчыны-касіра з трыма нажавымі раненнямі ў вобласці спіны. У загінулай былі выкрадзены сумка і грошы.**

Па паказаннях сведкаў, нападнік уцёк на аўтамабілі, уладальнік якога займаўся прыватным таксаваннем. Была ўзбуджаная крымінальная справа. На месцы здарэння следчымі былі знойдзены шматлікія матэрыяльныя сведчанні, у тым ліку – адбіткі пальцаў рук, па паказаннях сведкаў складзены фотаробат. Следчыя дзеянні і аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы не прывялі да жаданага выніку, злачынца высветліць не атрымалася.

Як паведамілі ў Следчым камітэце Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці, раскрыць забойства стала магчыма з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай дактыласкапічнай рэгістрацыі" і стварэннем адпаведнай інфармацыйна-пошукавай сістэмы. Абвінавачаны прайшоў працэдуру дактыласкапавання, і пасля гэтага следчым УСК Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці супрацоўнікамі экспертна-крыміналістычнага цэнтра УУС аблвыканкама была перададзена інфармацыя аб супадзенні адбіткаў, якія паступілі ў базу дадзеных. Яны саўпалі з выяўленымі на месцы здзяйснення злачынства ў 1996 годзе. Абвінавачаны быў апазнаны сведкам і дае прызнальныя паказанні. Крымінальная справа перакваліфікаваная ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, прад'яўленае абвінавачванне па частцы 2 артыкула 139 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад васьмі да дваццаці пяці гадоў або пажыццёвае зняволенне, ці смяротнае пакаранне). Абвінавачаны заключаны пад варту.

**Ян Сведка**

# У ВІЦЕБСКІМ РАЁНЕ ЗНАЙШЛІ МАРЫХУАНУ

**4 красавіка ў вёсцы Вароны Віцебскага раёна ў доме без гаспадара знайшлі спецыяльна прыстасаванае памяшканне для вырошчвання марыхуаны.**

Як паведамляе прэс-служба МУС, падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы 27-гадовы непрацоўны жыхар Віцебска, які абсталяваў гэтае памяшканне. Канфіскавана 31 расліна і абсталяванне. Заведзеная крымінальная справа па частцы 1 артыкула 329 КК «Пасеў або вырошчванне забароненых да апрацоўкі раслін».

5 красавіка праваахоўнікі ў ходзе агляду дома знайшлі і канфіскавалі 64,12 г марыхуаны. Заведзенаякрымінальнаясправа па ч.1 арт.328 1 КК «Незаконны абарот наркатычных сродкаў».

**Ян Сведка**

БЕЛАРУСЬ І ЭЎРАЗВЯЗ

# МІЛІНКЕВІЧ ЗА ПАКРОКАВЫ ДЫЯЛОГ БЕЛАРУСІ І ЕС

**9 красавіка ў Еўрапейскім парламенце зладзілі канферэнцыю, прысвечаную Беларусі. Абмяркоўваліся перспектывы беларуска-еўрапейскіх стасункаў.**

Падчас дэбатаў у Брусэлі выступіў таксама лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.

Ён канстатаваў, што Еўропа стамілася ад беларускага пытання: "З аднаго боку рэжым не дэмакратызуецца, але слабее, аднак пры гэтым і ўплыў дэмакратаў не павялічваецца. Абсалютная большасць беларусаў выступае за перамены, але не ведае хто і як іх можа ажыццявіць".

У гэтых умовах, перакананы Аляксандр Мілінкевіч, няма пазітыўнай альтэрнатывы абумоўленаму і крытычнаму дыялогу з Еўрасаюзам: "Ён не гарантыя, але шанец захаваць для Беларусі еўрапейскую перспектыву. Санкцыі ЕС не вызваляюць палітвязняў, павялічваюць антызаходнія настроі, памяншаюць уплыў дэмакратаў, паскараюць эканамічную анексію з боку Расіі".

Крытыкам палітыкі дыялогу Мілінкевіч нагадаў: "У сучаснай гісторыі Беларусі вязні сумлення выходзілі з турмы не ў выніку санкцый, а пасля візітаў Саланы і Младзенава, якія меліся распачаць дыялог. Падчас першай спробы дыялогу ў 2008-2010 годах палітычныя рэпрэсіі зменшыліся больш як у тры разы, значна ўзмацніліся праеўрапейскія настроі беларусаў, пашырыўся уплыў грамадзянскай супольнасці на працэсы ў краіне. Дыялог даваў Еўропе інструменты ўплыву на ўнутраную сітуацыю ў Беларусі".

"Ён быў перарваны правакацыяй спецслужбаў з расійскім следам", - сказаў Аляксандр Мілінкевіч пра падзеі 19 снежня 2010 года.

"Чым бліжэй да Еўропы, тым болей незалежнасці і правоў чалавека. Любы пазітыўны крок у бок Захада лепш, чым крокі, што вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту. Нашым лозунгам мусіць быць: "Болей Еўропы ў Беларусь!" Болей кантактаў, абменаў, народнай дыпламатыі", - сказаў Мілінкевіч.

Нагадаем, днямі з заявай "Болей Еўропы для Беларусі" наконт мадэрнізацыйнага дыялогу выступілі Рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду" і Партыя БНФ.

Яе змест Аляксандр Мілінкевіч таксама прадставіў у Брусэлі, адзначыўшы: "Шырокая супраца з уладамі можа распачацца толькі пасля вызвалення палітычных вязняў. Дыялог Еўрасаюза з Беларуссю павінен рэалізоўвацца праз "дарожную мапу" пакрокавага збліжэння - "крок за крок". Галоўнай яго мэтай маюць быць заваёвы розумаў і сэрцаў беларусаў".

"Дыялог аб мадэрнізацыі" Мілінкевіч назваў надзвычай важным праектам: "Патрэбна шырокая папулярызацыя гэтай працы па ўсёй краіне: праз круглыя сталы, канферэнцыі, дыскусіі, заангажаванне мясцовых эліт і СМІ. Важна працягнуць у грамадстве дыскусію на тэму: "Пра якую Беларусь мы марым?". У выніку павінна паўстаць "Народная праграма" і вера ў магчымасць яе рэалізацыі, вера ў сябе і еўрапейскую перспектыву краіны".

www.pyx.by

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ПАДТРЫМАЛА ЗВОЛЬНЕНЫХ ЗА ІНШАДУМСТВА

**Адкрыты зварот ў абарону рабочых "Граніта" і выкладчыкаў Гродзенскага ўніверсітэта падпісалі прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, сярод якіх лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч, паэт і палітык Уладзімір Някляеў, гісторык Уладзімір Арлоў, спявак Лявон Вольскі, філосаф Валеры Булгакаў і іншыя знаныя асобы, паведамляе "Наша Ніва".**

***Зварот інтэлігенцыі***

У Беларусі працягваюцца звальненні з працы па палітычных матывах.

З Мікашэвіцкага прадпрыемства "Граніт" звольнены актывіст незалежнага прафсаюза Анатоль Літвінка. Раней з гэтага ж прадпрыемства былі звольненыя актывісты Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) Алег Стахаевіч, Мікалай Карышаў, Генадзь Паўлоўскі, Людміла Літвінка, Віталь Пашэчка, а з полацкага завода "Шкловалакно" – старшыня суполкі БНП Віктар Стукалаў.

З Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы па палітычных матывах звольнены прафесар Вячаслаў Швед. Раней у той жа навучальнай установе страцілі працу дацэнт Андрэй Чарнякевіч. У знак пратэсту супраць палітычнага пераследу і пад ціскам з гэтага ўніверсітэта вымушаны быў сысці старшы выкладчык Ігар Кузьмініч.

Звальненне з працы па палітычных матывах – не толькі парушэнне працоўнага заканадаўства і міжнародных абавязацельстваў у рамках Міжнароднай арганізацыі працы. Гэта парушэнне Канстытуцыі і законаў Беларусі, чаго ўлады не могуць не разумець, і тым не менш не спыняюцца ў сваіх дзеяннях.

Мы лічым, што гэта адбываецца не толькі таму, што пазбаўленне працы, пагроза звальнення – механізм уздеяння на іншадумцаў унутры краіны, нагнятанне атмасферы страху.

Гэта яшчэ й інструмент замежнай палітыкі, які скарыстоўваецца менавіта тады, калі назіраюцца тэндэнцыі да нармалізацыі адносінаў з Еўрасаюзам.

І кожны раз гэта робіцца для таго, каб абвастрыць адносіны з аб'яднанай Еўропай. Ва ўладзе ёсць людзі, якія не хочуць, каб адносіны Беларусі з еўрапейскай сям'ёй народаў паляпшаліся. Пакуль гэтыя сілы будуць мець уплыў, датуль яны будуць напружваць сітуацыю, скіроўваючы Беларусь на ўсход, у Расію. Менавіта яны з'яўляюцца "пятай калонай".

Такая палітыка вельмі небяспечная, бо можа прывесці да страты незалежнасці. Таму мы заклікаем усіх, у тым ліку тых прадстаўнікоў улады, якім насамрэч дарагая Беларусь, супрацьстаяць гэтай "пятай калоне".

Мы заклікаем беларускае грамадства выказаць салідарнасць з усімі, каго звальняюць з працы, выключаюць з навучальных установ, падвяргаюць пераследу па палітычных матывах. Мы заклікаем дапамагаць ім маральна і матэрыяльна.

Мы заклікаем Міжнародную арганізацыю працы, прафсаюзныя арганізацыі, міжнародную дэмакратычную супольнасць адэкватна адрэагаваць на парушэнні ў Беларусі аднаго з асноўных правоў чалавека – права на працу.

Мы патрабуем ад уладаў безумоўнага выканання працоўнага заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

НАВУЧАННЕ

# ШКОЛА МАДЭРНІЗАЦЫІ АДКРЫЛАСЯ Ў ВІЦЕБСКУ І ПОЛАЦКУ

**Навучанне арганізаванае намаганнямі актывістаў Руху "За Свабоду" на базе мясцовых Еўраклубаў.**

Першыя заняткі у Віцебску 30 сакавіка правеў палітолаг Юры Чавусаў. Да працы ў школе будуць запрашацца эксперты ў галіне мясцовага самакіравання, рыначнай эканомікі, правазнаўства, працы СМІ, грамадзянскай супольнасці, рэформаў ЖКГ, адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнай абароны.

Грамадскія актывісты (пераважна – моладзь) будуць праходзіць навучанне два разы ў месяц па дысцыплінах "Дзяржаўны стан у дэмакратычнай краіне", "Грамадзянская супольнасць", "Мясцовае самакіраванне".

Слухачы школы таксама ўдасканаляць свае веды па англійскай мове. Асобным радком будуць праходзіць заняткі па практычнаму выкарыстанню беларускай мовы

"Маладым давядзецца праводзіць мадэрнізацыю краіны. Яны павінны ведаць ужо зараз, як мусіць выглядаць дзяржава і грамадства ў дэмакратычнай Беларусі і якія трэба правесці рэформы ў палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сферы, каб Беларусь заняла гістарычна прызначанае ёй месца ў сям'і Еўрапейскіх краін", – кажа ініцыятар стварэння школы, каардынатар Руху "За Свабоду" па Віцебшчыне Хрыстафор Жаляпаў.

ПРАБЛЕМА ЭКСПАРТА

# БЕЛОРУССКИЙ ЭКСПОРТ СТАГНИРУЕТ ПОСЛЕ ПОТЕРИ «ВИТЕБСКОГО ЧУДА»

**Результаты внешней торговли в первые месяцы 2013 года показывают, что объемы белорусского экспорта остаются на невысоком уровне, который сложился после прекращения «растворительного» бизнеса. Достойной альтернативы «витебскому чуду» так и не нашлось. Белорусский экспорт стагнирует, «палочка-выручалочка» просматривается только одна – калийные удобрения.**

***Белорусские «растворители» получили продолжение в Казахстане***

В январе-феврале экспорт белорусских товаров составил 6,18 млрд. долларов, что на 1,3 млрд. меньше по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

Главная положительная новость внешней торговли товарами состоит в том, что, несмотря на заметное снижение экспорта, отрицательное сальдо находится в умеренных пределах, которое удается перекрывать за счет положительного сальдо, достигнутого во внешней торговле услугами.

Плохая новость — темпы роста экспорта явно отстают от запланированных и происходит так потому, что компенсировать отсутствие растворителей в экспортной корзине Беларуси так пока ничем и не удалось.

В 2012 году, напомним, одним из главных драйверов экспорта считалась Витебская область, получившая известность за счет «растворительного» бизнеса. Прекращение оного привело к тому, что теперь Витебщина не является локомотивом белорусского экспорта и вернулась, если говорить о внешнеторговой деятельности области, на свой естественный объем поставок продукции на внешние рынки.

Как видим, «витебского чуда» больше нет. В то же время белорусский экспорт стагнирует: его месячный объем составляет 3-3,2 млрд. долларов, хотя благодаря «чуду» в прошлом году Беларуси удавалось увеличивать этот показатель до 4-4,5 млрд. долларов в месяц.

Впрочем, схема экспорта нефтепродуктов под видом растворителей, из-за которой Москва обиделась на Минск, получила продолжение в рамках Единого экономического пространства. «Растворительным» бизнесом стал заниматься Казахстан.

«В Беларуси экспорт «растворителей» был остановлен в августе 2012 года, но теперь эстафету у Беларуси принял Казахстан. Там экспорт моторного топлива запрещен и поэтому вместо бензина Казахстан сейчас экспортирует «растворители», — рассказал на этой неделе во время минской конференции, посвященной нефтепереработке, эксперт Thomson Reuters Александр Ершов.

Что касается белорусских растворителей, то они теперь совсем не те, что были. Если год назад средняя цена белорусских «растворителей» совпадала со стоимостью нефтепродуктов, то в 2013-м все встало на свои места. Теперь белорусские растворители стоят примерно в полтора раза дороже нефтепродуктов, а их объемы экспорта сократились по сравнению с прошлым годом в сотни раз.

Все это свидетельствует о том, что «растворительный» бизнес, получивший широкий размах в прошлом году, в прежнем виде прекратился, и в новом году Беларусь не смогла его возобновить.

***Вся надежда на удобрения***

В условиях, когда «растворительного» бизнеса больше нет, у Беларуси появилась насущная необходимость чем-то заместить пробел в торговом балансе, чтобы удержать месячные объемы экспорта на высоком прошлогоднем уровне. Ключевой вопрос: за счет чего этого можно добиться?

Есть основания полагать, что по итогам года калийные удобрения внесут существенный вклад в рост белорусского экспорта. Предпосылок для такого прогноза несколько. Во-первых, отраслевые эксперты ожидают, что во втором полугодии, о чем ранее писала интернет-газета Naviny.by, на мировом рынке вырастут цены на калийные удобрения. Кроме того, участники рынка прогнозируют и увеличение объемов потребления хлоркалия.

«В 2011 году объем потребления хлоркалия в мире составил порядка 54 млн. тонн, в 2012-м этот показатель снизился до 50 млн. тонн. В 2013-м ожидается восстановление рынка, годовой объем потребления хлоркалия оценивается в нынешнем году на уровне 55 млн. тонн», — сообщил Naviny.by эксперт калийной отрасли.

В нынешнем году Беларусь уже подписала контракты на поставку хлоркалия в Китай и Индию. Кроме этого, по итогам недавнего визита в Индонезию белорусская сторона подписала несколько контрактов на 400 млн. долларов, а, учитывая, что экспорт Беларуси в эту страну на 80-90% формируют калийные удобрения, несложно предугадать, какие именно соглашения были заключены.

Проблема Беларуси состоит в том, что таких конкурентоспособных товарных позиций как калийные удобрения в экспортном портфеле нашей страны немного. Считанные белорусские товары могут успешно продаваться в разных уголках мира.

«В нашем экспорте существует фундаментальная проблема, связанная с конкурентоспособностью продукции, и мы не решим ее за счет увеличения экспорта калийных удобрений или нефтепродуктов. Если наши товары, поставляемые в Россию, не будут конкурентоспособны на рынках вне СНГ, то у нашего торгового баланса будут неприятные перспективы», — полагает научный директор Исследовательского центра ИПМ Ирина Точицкая.

По мнению эксперта, в настоящее время не видно, за счет чего Беларусь могла бы значительно увеличить в 2013-м объемы экспорта по сравнению с уровнем 2012 года.

Статистика первых месяцев нынешнего года подтверждает, что для экспортного бума пока действительно не видно оснований. В январе-феврале по большинству товарных позиций, экспорт которых по сравнению с аналогичным периодом прошлого года увеличился, прирост не превышал 10 млн. долларов. Мало того, экспорт таких важных для Беларуси товаров (грузовых автомобилей, нефтепродуктов, тракторов) в январе-феврале даже сократился (как в денежном, так и в физическом выражении) по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

**Дмитрий ЗАЯЦ, "БЕЛАПАН"**

ЭНЕРГЕТЫКА

# СЛАНЦАВАЯ «РЭВАЛЮЦЫЯ»: НАСТУПСТВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Пачатак здабычы сланцавага газу ў краінах Эўропы можа стаць адчувальным ударам для Расеі, якая ў такім выпадку страціць пазыцыі галоўнага пастаўшчыка прыроднага газу на Захад. Апроч таго, Злучаныя Штаты з найбуйнейшага імпартэра паліва паступова пераўтвараюцца ў краіну-экспартэра — зноў жа дзякуючы сланцавым распрацоўкам. Як супрацьстаяньне на газавым рынку адаб'ецца на Беларусі, якая, ня маючы ўласных запасаў, застаецца цалкам залежнай ад зьнешніх фактараў?**

Дасьледчыкі канстатуюць: распрацоўкі сланцавага газу ў ЗША і падрыхтоўка адпаведных пляцовак у Польшчы і Украіне падрываюць доўгатэрміновыя пэрспэктывы «Газпрому» і, як вынік, усёй эканомікі Расейскай Фэдэрацыі. У 2012 годзе Амэрыка здабыла 260 мільярдаў кубамэтраў сланцавага газу, і ў агляднай пэрспэктыве гэты паказьнік можа амаль падвоіцца. Паводле разьлікаў, разьведаных запасаў хопіць амэрыканцам больш чым на 100 гадоў. Такім чынам, ЗША ня толькі паступова выходзяць на самазабесьпячэньне гэтым палівам, але і маюць усе падставы распачаць яго экспарт, у тым ліку і на эўрапейскі кантынэнт.

Як перакананы эканамічны аглядальнік Алесь Герасіменка, такі расклад будзе выгадны і Беларусі — кошт сланцавага газу істотна меншы за кошт прыроднага, які прадае Расея:

«Напрамак сапраўды вельмі пэрспэктыўны, у чым ЗША пераканалі ўжо ўвесь сьвет. Яшчэ нейкіх пяць гадоў таму пасьмейваліся, у тым ліку і ў „Газпроме", з такіх пэрспэктыў, але летась ужо мусілі і ў Крамлі, і ў „Газпроме" заявіць пра вельмі сур'ёзную пагрозу іхнім інтарэсам у Эўропе. Ужо праз пару гадоў, як плянуецца, Амэрыка пачне актыўны экспарт сланцавага газу ў Эўропу, і, адпаведна, пазыцыі „Газпрому" на гэтым рынку могуць здорава пахіснуцца, бо па цане расейскі прыродны газ неканкурэнтаздольны. Тыя ж амэрыканцы гатовыя прадаваць сланцавы газ як мінімум на 100 даляраў танней за 1000 кубічных мэтраў. Для Беларусі гэтае пытаньне тым больш стратэгічнае, што мы цалкам залежым ад расейскага газу. І калі ў нас зьявіцца альтэрнатыўная крыніца такога паліва, то гэта можна толькі вітаць».

Пошукі сланцавага газу распачатыя і ў суседніх зь Беларусьсю Польшчы і Украіне. Гэтая актыўнасьць таксама напружвае Маскву, бо пагражае стратай істотных рынкаў збыту. Так, згодна з ацэнкамі Дзяржаўнага геалягічнага інстытуту Польшчы, запасы сланцавага газу ў краіне перавышаюць 5 трыльёнаў кубамэтраў. Пры штогадовай патрэбе на ўзроўні 15 мільярдаў кубамэтраў, радовішчы забясьпечаць сыравінную незалежнасьць палякаў на шмат дзесяцігодзьдзяў. Агэтзначыцьь, Польшча ў пэрспэктыве можа цалкам адмовіцца ад расейскага газу. Пра істотныя залежы сланцавага газу гавораць і ва Украіне, дзе, працягвае эканамічны аглядальнік Алесь Герасіменка, таксама вядзецца падрыхтоўка радовішчаў. А вось Беларусь хоць і дэклaравала намер заглыбіцца ў нетры, але ўсе акалічнасьці гэтага пакуль трымаюцца ў таямніцы:

Паводле наяўных зьвестак, беларускія ўлады вызначылі восем участкаў для пошуку радовішчаў сланцавага газу. Тры зь іх — у Падляска-Берасьцейскай упадзіне на мяжы з Польшчай, астатнія — у Прыпяцкім прагібе на разьлеглай тэрыторыі Гомельскай, Магілёўскай і Менскай абласьцей.

Тым часам расейскі газавы манапаліст «Газпром», усур'ёз напалоханы пагрозай перадзелу газавага рынку, намагаецца максымальна забясьпечыць сябе доўгатэрміновымі кантрактамі. З падачы Крамля адноўленая ідэя пракладкі другой ніткі газаправоду Ямал-Эўропа празь Беларусь. Праўда, улады Польшчы пакуль вагаюцца, ці варта пагаджацца на гэты праект, маючы такія пэрспэктывы са сланцавым газам.

Эўрапейскія пакупнікі ўсё больш настойліва дамагаюцца прывязкі да спотавых, то бок бягучых, коштаў на газ, што гарантуюць пастаўшчыкі сланцавага газу. «Газпром» жа намагаецца замацаваць пакупнікоў шматгадовымі кантрактамі, які не дазваляюць нічога карэктаваць нават ва ўмовах падзеньня цэнаў на ўсясьветным рынку. Паводле экспэртных ацэнак, пры цяперашніх тэмпах сланцавай рэвалюцыі экспарт газу з Расеі ўжо бліжэйшым часам зьнізіцца на 70 мільярдаў кубамэтраў штогод.

**Ігар Карней, "Радыё Свабода"**

КАРУПЦЫЯ КВІТНЕЕ

# ДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АЛІМПІЙСКАГА РЭЗЕРВУ АБВІНАВАЦІЛІ Ў КРАДЗЯЖЫ 42 МІЛЬЁНАЎ

**Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да дырэктара Мінскага гарадскога цэнтра алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту. Яму інкрымінуецца крадзеж сродкаў цэнтра з дапамогай «мёртвых душ».**

Як паведамілі «Штодзённіку» ў Следчым камітэце, крымінальная справа ўзбуджаная па матэрыялах Упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама. Дырэктару ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту" інкрымінуецца здзяйсненне злачынства па ч.4 арт.210 Крымінальнага кодэкса Беларусі (крадзеж шляхам злоўжывання ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненае арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры).

Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне да 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Паводле дадзеных Следчага камітэта, дырэктар ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту" са снежня 2005 года па жнівень 2012 здзейсніў крадзеж больш за 42 мільёнаў рублёў цэнтра.

Крадзеж здзяйснялася вельмі немудрагелістым і даволі распаўсюджаным у дзяржструктурах спосабам - праз фіктыўнае працаўладкаванне ў штат цэнтра асоб, якім налічвалася зарплата.

Так у снежні 2005 года па ўказанні дырэктара ў штат ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту" на пасаду кіроўцы быў працаўладкаваны жыхар Мінска. На самой справе кіроўца не прапрацаваў у цэнтры ні аднаго дня, а ўсе сем гадоў дырэктар атрымліваў за яго заработную плату і нават камандзіровачныя. Паводле падлікаў следчых, за гэты час падазраваны незаконна паклаў у сваю кішэню каля 42.600.000 рублёў.

Зрэшты, гэта толькі пачатак расследавання. Ужо зараз вядуцца допыты іншых службовых асоб, якія за сем гадоў павінны былі бачыць, што ў цэнтры фіктыўна працаўладкаваны людзі, але чамусьці маўчалі. Акрамя таго, зараз правяраюцца і іншыя фінансавыя аперацыі ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту».

Варта адзначыць, што крадзеж сродкаў праз фіктыўнае працаўладкаванне неіснуючых асоб, з'яўляецца сёння самым распаўсюджаным чынавенскага крадзяжу. Асабліва распаўсюджаны гэты спосаб у сістэме ЖКГ, але і ў беларускім спорце, як відаць, таксама.

**Георгі Дань «Штодзённік»**

СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЕ БАІЦЦА СКАРАЧАЦЬ ЧЫНОЎНІКАЎ?

**Кіраўнік Беларусі загадаў скараціць дзяржапарат на 25 працэнтаў. Што гэта — чарговы піяр ці вымушаны крок? Ці сапраўды чыноўнікаў стане менш? На пытанні Радыё "Свабода" адказвае галоўны рэдактар "Новага Часу" Аляксей Кароль.**

*— Выглядае, што кіраўніцтва дзяржавы прыйшло да разумення неабходнасці скарачэння чынавенскага апарату. Але якія прычыны падштурхнулі да такога рашэння — эканамічныя, арганізацыйныя, прапагандысцкія?*

— Тут шэраг складнікаў, і эканамічны выглядае самай відавочнай прычынай. Другая прычына — скарачэннем апарату Лукашэнка працуе на свой імідж, у падтрымку сацыяльнай дамовы з насельніцтвам. Даецца яўны сігнал, мэта якога — вяртанне даверу электарату.

Трэці складнік — скарачэнне апарату як выйсце з эканамічнага тупіку адбываецца паводле лякалаў савецкай бюракратычнай цэнтралізаванай сістэмы. Аднак Лукашэнка іншай ня ведае, і працуе па адпрацаванай гадамі схеме. Але тыя савецкія скарачэнні эфекту не давалі, пасля кожнага апарат зноў вяртаўся ды тых самых памераў і нават вырастаў.

*— Магчыма, варта скарачаць функцыі, а не людзей?*

— Трэба мадэрнізаваць сістэму, каб яна была самарэгулюемай. А такой сістэмай у палітыцы з'яўляецца дэмакратыя, а ў эканоміцы — свабодная эканоміка.

*— Палітолагі адзначаюць, што сваімі дзеяннямі апошнія месяцы Лукашэнка сапраўды хоча выклікаць любоў большасці электарату — паездкі на заводы, пасадкі чыноўнікаў. Аднак ці не баіцца ён такімі дзеяннямі выклікаць незадавальненне чыноўнікаў?*

— Я думаю, што скарачэнне закране ў асноўным сярэднія ці ніжнія звёны і не закране верхатуру. А сістэма самазахавання ўлады замкнёна на вяршыні пірамiды, а там калі і будзе бізун, то будзе і пернік. І гэтая сістэма ў гэтым сэнсе дастаткова ўстойлівая.

**http://www.svaboda.org**

# У КАЗНЕ НЯМА ГРОШАЎ НА БЫЛЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна накіравала ў Палату прадстаўнікоў праект зменаў закона аб дзяржслужбе, які зробіць роўнымі звольненых з дзяржорганаў чыноўнікаў з астатнімі смяротнымі.**

Чыноўнікам, супрацоўнікам пракуратуры, Следчага камітэта і іншых дзяржаўных органаў, якія патрапяць пад кампанію скарачэння штатаў, спадзявацца не будзе на што. Дзяржава выршыла адмяніць усе раней прадугледжаныя для такіх выпадкаў льготы, піша "Народная воля".

Сёння тым, хто аказваецца без працы па скарачэнні штатаў або ў сувязі з ліквідацыяй арганізацыі, пакладзена выхадная дапамогу ў памеры трох месячных акладаў і далей дзяржава гарантуе толькі мізэрную дапамогу па беспрацоўі, калі чалавек зарэгістуецца беспрацоўным у службе занятасці. Аднак для дзяржслужачых прадугледжаны іншыя правілы.

На дадзены момант "Закон аб дзяржаўнай службе" прадугледжвае мноства гарантый звольненым чыноўнікам. У прыватнасці, ён вызначае, што пры вызваленні дзяржаўнага чыноўніка ў сувязі з ліквідацыяй дзяржаўнага органа, скарачэннем колькасці або штату работнікаў яму:

- Павінна быць прапанаваная іншая дзяржаўная пасада з улікам яго прафесіі, кваліфікацыі і займаемай раней пасады;
- Гарантуецца пры немагчымасці працаўладкавання перападрыхтоўка па накіраванні дзяржаўнай службы занятасці насельніцтва з выплатай за ўвесь перыяд навучання стыпендыі ў памеры сярэднямесячнай заработнай платы па займаемай да звальнення пасадзе;
- Выплачваецца выхадная дапамога. Тым, хто прапрацаваў да 5 гадоў - у памеры трох сярэднямесячных заработных плат, ад 5 да 10 гадоў - у памеры чатырох сярэднямесячных заработных плат, ад 10 да 15 гадоў - у памеры пяці сярэднямесячных заработных плат, больш за 15 гадоў - у памеры шасці сярэднямесячных заработных плат.
- Выплачваецца дапамога па беспрацоўі ў памеры сярэднямесячнай заработнай платы па займаемай да звальнення пасадзе;
- І іншыя.

Аднак гэтыя правілы вельмі хутка могуць быць зменены. Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна накіравала ў Палату прадстаўнікоў праект зменаў закона аб дзяржслужбе, у адпаведнасці з якім усе гэтыя выплаты і даплаты будуць адменены.

На дзяржслужачых прапануецца распаўсюдзіць толькі тыя правілы, пад якія падпадаюць звычайныя грамадзяне, а гэта тры месячных аклады і дапамога па беспрацоўі, якая на дадзены момант складае 16,6 долара ў месяц. Ды і то пры ўмове абавязковага ўдзелу ў грамадскіх працах.

Пры гэтым у тлумачальнай запісцы да законапраекта Мар'яна Шчоткіна заўважыла, што ў базе вакансій службаў занятасці досыць месцаў, каб забяспечыць працай усіх звольненых. Праўда, на працу ў асноўным патрабуюцца столяры, слесары, муляры, вадзіцелі аўтобусаў і тралейбусаў, кандуктары, медсёстры, касіры, санітаркі...

**Ірына Мальцава "Народная воля"**

Заснавальнік і рэдактар: Салодкі Сяргей Аляксандравіч

Адрас рэдакцыі: г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

Падпісана да друку 16.04.2013 у18.25. Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.